# ЗАВЕРШИЛСЯ КОНКУРС "Лучшая усадьба"

*Сегодня мы познакомим наших читателей с победителями конкурса, людьми - для которых приусадебный участок стал не только средством выживания в современных условиях, но и просто самым лучшим местом на свете. Ведь самый приятный отдых - это отдых среди своих зелёных друзей.*








Дом Валерия Александровича и Нелли Михайловны Столяровых заметен издали. Столько цветовой гаммы растительного мира в Пружанах не собирал никто, видимо ещё со времён известного садовода - хозяина Пружанского палацика Валентия Швыковского. За четыре года благоустройства участка собрано около 50 видов однолетников, около 100 видов многолетников. Порадовали нас хозяева искусной планировкой и диковинными растениями: дерево смородина, дерево крыжовник, ампельная клубника, арбуз. Валерий Александрович сам изготовил декоративную плитку, которой уложены дорожки в виде мозаики. Зона отдыха также не обделена вниманием. Кроме садовой скамейки и стола, уютно спрятавшихся под навесом, рядом расположилась жаровня и мангал.

Как в хорошей семье здесь каждое растение окружено вниманием и заботой, имеет своё место. Нужна опора - пожалуйста, сетка из лозы. Кстати опорные стенки искусно имитируют естественный ландшафтный пейзаж. Вазы с петуниями (это любимое растение Нелли Михайловны) придают дворику особую прелесть и уют.

По словам Столяровых, они создали свои цветники в «западных» традициях. Это означает, что невысокие цветущие многолетники расположились на первом плане, кустарники на втором, а деревья на третьем. Цветники разбиты по всему участку, создавая естественные зелёные границы. В проекте у Валерия Александровча постройка зимнего сада и водоёма которые, должны смягчать его ностальгию по короткому лету.

Знакомьтесь! Наталья Владимировна и Александр Владимирович Валюкевичи. На протяжении трёх лет хозяева небольшого приусадебного участка по улице Мира создали прекрасно оформленный уголок, ставший украшением не только собственной усадьбы, но и всей улицы. В ландшафтном озеленении, кроме разнообразных видов растений хорошо использован природный материал, из камней сложена горка, из прутьев берёзы - благородные олени, из дерева - чудесные грибы и гномы, возле крыльца красуется аист. Все эти чудесные обитатели удачно разместились на зелёном газоне.



В современном ландшафтном дизайне и архитектуре вода стала важным, и едва ли не обязательным элементом композиции. Вот и Валюкевичи использовали небольшой водоём, привлекающий внимание прохожих своим фонтанчиком, усиливающим впечатление от увиденного.

Не сразу заметишь, что плавающие обитатели водоёма - пластмассовые уточки являются элементами декора. На заднем плане водоёма сооружена небольшая альпийская горка из очитков, молодила, крестовника. Берега водоёма уложены декоративным щебнем и натуральными камнями разной величины. У парадного входа на участок установлен фонарь, а визитной карточкой этого дома, пожалуй, будет аист в гнезде, пусть он принесит хозяевам удачу, счастье и здоровье.







Следующим участником и победителем конкурса стала Грицко Валентина Ивановна. По её словам цветоводством занимается всю жизнь. В детстве считала, что весь луг - это её цветы. Цветы стояли во всех имеющихся вазах, а если их не хватало, то просто лежали на окошке.

Валентина Ивановна больше всего уважает в людях доброту и честность. Самое лучшее место - это родина, родной дом. И украшает это место огромным количеством цветов.



Центральное место в художественной композиции занимает горка, состоящая из ступеней, на которых разместились светолюбивые растения. Здесь и очитки разных видов, молодила, шилоподобные флоксы, гвоздика перистая и т.д.

В ландшафтном озеленении наибольшей популярностью пользуются очитки из семейства Толстянковых.

С ранней весны и до поздней осени участок в цвету. Весной первыми зацветают примулы, гиацинты (сколько в них красок!), тюльпаны. Одновременно с ними зацветают японская незабудка, декоративный лук и прекрасный бадан. Самым удачным материалом для вертикального озеленения стали крупноцветные клематисы.

Диковинными для наших мест можно назвать лимонник китайский. Это своеобразная лиана с вьющимися стеблями. И самое главное - это растение даёт плоды, оказывающие благотворное тонизирующее действие на организм человека.

Валентина Ивановна охотно делится своими сокровищами. Недавно с её участием ещё один уголок рокарий в СШ№5 приобрёл ещё большую красочность.

**Материалы страницы подготовлены при поддержке представительства ISAR**

*В заключение хочется пожелать участником и победителям конкурса счастья, крепкого здоровья, удачи. Мы надеемся, что их опыт по озеленению своих дворов станет хорошим примером для многих неравнодушных жителей нашего города.*



# "Бог даў нам багатую зямлю і месца ў цэнтры Еўропы"

(Выступ Сямёна Домаша на 3'ездзе грамадскасці рэгіёнаў Беларусі. 26.05.2001 г.Мінск)

*Шаноўныя сябры!*

*Паважаныя замежныя госці!*

Паспрабую не стамляць Вас і ўкласціся ў 20 хвілін. Я глыбока перакананы, калі б заробкі і пенсіі нашых людзей залежалі ад колькасці слоў, то мы былі б ужо самай заможнай краінай у свеце.

Першае пытанне, якое Вы мне можаце задаць, і якое я шмат разоў задаваў сабе сам: чаму я прыняў рашэнне удзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах? Мой выступ перад вамі - гэта і ёсць адказ на гэтае пытанне.

Не сумняваюся, што ўсіх нас, сабраўшыхся ў гэтай залі, аб'ядноўвае пачуццё грамадзянскай адказнасці за лёс нашай Радзімы. І адначасова пачуццё горычы за тое, што наша родная Беларусь стала чорнай дзіркай на мапе Еўропы, стала полем чарговага нецывілізаванага сацыяльнага эксперыменту.

Наша Беларусь мае велізарны патэнцыял. Бог даў нам багатую зямлю і месца ў цэнтры Еўропы. Нашыя людзі ўмеюць працаваць. Яны добрыя, гуманныя і адкрытыя, гатовыя прыйсці на дапамогу ўсім, хто трапіў у бяду.

Але сёння большая частка творчага і маральнага патэнцыялу грамадзянаў Беларусі заблакавана. Разрыў паміж чалавекам і ўладай за апошнія 7 гадоў рэзка павялічыўся.

Таўсцейшымі сталі сцены бюракратычных кабінетаў, абсталяваных мяккай мэбляй. Праз іх "слугі" не чуюць свайго народа.

Вазьму на сябе смеласць сцьвярджаць, што гэтыя 7 гадоў сталі бадай адным з самых цяжкіх перыядаў у шматвякавой гісторыі Беларусі.

Сёння бачны поўны правал эканамічнай палітыкі першага прэзідэнта Беларусі. Прычым гаворка ідзе не пра асобныя памылкі, а пра прынцыповую недзеяздольнасьць самой эканамічнай сістэмы. Праўда, узнікае пытанне: а ці ёсць наогул якая-небудзь сістэма?

У краіне створана мадэль, не здатная працаваць без надзвычайных мер. Нават для вырашэння самай дробнай гаспадарчай задачы ствараюцца штабы і усё новыя кантралюючыя органы, ледзь не ўводзіцца "асаднае" становішча.

Я прапаную кожнаму грамадзяніну Беларусі адказаць самаму сабе толькі на адзінае пытанне: "Ці стаў ён сёння жыць лепш, чым 7 гадоў назад?!"

Пераможным рэляцыям улад аб "эканамічнай стабілізацыі" і нават "пачаўшымся гаспадарчым пад'ёме" народны фальклор даў дакладную назву - "стабілізец". Зараз праблема эканомікі Беларусі не столькі ў прастойванні, колькі ў наяўнасці процілеглага вектара развіцця.

Улада аказалася ў руках невялікай групы людзей, якія не маюць вопыта дзяржаўнага кіраўніцтва і якія і да гэтага часу не зразумелі, што дзяржава Беларусь - гэта не адсталы саўгас "Гарадзец".

Палітыка гэтых выпадковых кіраўнікоў прывяла да таго, што краіна жыве за кошт будучых пакаленняў.

Зараз стала бачна, што дзейнасць цяперашняга кіраўніка Беларусі, які ўтрымлівае ўладу незаконна, прадстаўляе сур'ёзную пагрозу беларускай дзяржаўнасці ў самым прамым сэнсе гэтага слова.

Трагедыя народа Беларусі ў тым, што такая святая для кожнай нацыі каштоўнасць, як дзяржаўны суверэнітэт, стала разменнай манетай у не зусім чыстай палітычнай гульні кіраўнікоў Беларусі. Для іх незалежнасць краіны - гэта тавар, які яны выкарыстоўваюць дзеля вырашэння сваіх асабістых задач.




Ужо некалькі гадоў краіна знаходзіцца фактычна ў міжнароднай ізаляцыі. "Я своё общество за цивилизованным миром не поведу",- сказаў калісці беларускі правадыр. І гэта адзінае абяцанне, якое ён выконвае непахісна.

За гэты час краіна з дружалюбным і талерантным народам сумела сапсаваць адносіны практычна з усімі суседнімі краінамі, абвясціць ідэалагічную і дыпламатычную вайну ўсяму Захаду. Беларусь стала крыніцай еўрапейскай дэстабілізацыі, сусветным ізгоем.

Беларусь выпадае з працэсаў сусветнага развіцця. Кіраўніцтва краіны прадэманстравала поўную нядольнасць адаптавацца да новых гістарычных і геапалітычных умоў, уліцца ў новую сістэму міжнародных адносінаў, стварыць спрыяльныя і бяспечныя ўмовы для існавання беларускага грамадства.

Сур'ёзную пагрозу для ўсяго нашага народа прадстаўляе канстытуцыйна-прававы крызіс. У лістападзе 1996 года ў краіне адбыўся дзяржаўны пераварот. Была ліквідавана прадстаўнічая ўлада, а з ёю дэмакратыя і прававая дзяржава.

У краіне не дзейнічае прынцып верхавенства закона. Улады не выконваюць нават Канстытуцыю, якая была ўведзена ў выніку перавароту. Кіраўніцтва краіны не прызнае ні якіх прававых абмежаванняў сваёй дзейнасці. Вертыкаль у масавым парадку парушае правы і свабоды грамадзян.

Аўтарытарны рэжым пазбаўляе наша грамадства магчымасці выяўлення і адбору сацыяльных альтэрнатываў, выбару аптымальнай мадэлі развіцця. Заблакаваны механізмы карэктыроўкі памылковых рашэнняў. 10-мільённы народ стаў закладнікам нораву аўтарытарнага правіцеля, яго вельмі прымітыўных уяўленняў аб грамадстве.

Курс на ліквідацыю прававой дзяржавы пазбаўляе кіраўнікоў усіх узроўняў, гаспадарнікаў, прадпрымальнікаў, усіх грамадзян уяўленняў аб тым, што магчыма, а што немагчыма. Разбурае прававую свядомасць грамадства, зацвярджае прававы нігілізм, прывучае людзей да думкі, што ўсе праблемы можна вырашыць не з дапамогай закона, а з дапамогай сілы.

У выніку па колькасці зняволеных на тысячу жыхароў Беларусь займае адно з першых месцаў у свеце. Ва ўмовах прававога хаосу вінаватымі становяцца ўсе. Але да адказнасці прыцягваюць не ўсіх. Карупцыянерамі аб'яўляюць зыходзячы з палітычнай мэтазгоднасці.

Права стала інструментам палітычнай барацьбы. Сёння на Беларусі быць кіраўніком - адна з самых небяспечных прафесій. Усе гаспадарчыя кіраўнікі працуюць ва ўмовах тэрору кантралюючых ворганаў.

Усё гэта прывяло да рэзкага павелічэння сацыяльнага напружання. Пакуль яно не мае адкрытага праяўлення, але з цягам часу можа прывесці да сур'ёзных канфліктаў. Паглыбляецца раскол грамадства, што стварае прамую пагрозу і беларускаму народу і беларускай дзяржаве.

Такім чынам, сёння наша грамадства знаходзіцца перад гістарычным выбарам. Кіруючы рэжым стаў крыніцай павышанай небяспекі, паставіў Беларусь на рысу нацыянальнай катастрофы. Ён не здольны адказаць на выклік часу, ажыццявіць рэформы і мадэрнізацыю, пераход да новага ўзроўню грамадства, вывесці краіну на шлях прагрэсу.

Пытанне аб змене рэжыму выходзіць на ўзровень задачы нацыянальнага выратавання.

Так далей жыць нельга! Наш народ заслугоўвае лепшай долі, чым быць інструментам для задавальнення хваравітай цягі да ўлады аднаго чалавека.

Яшчэ пяць гадоў такога кіравання Беларусь не вытрымае!

Беларускае грамадства чакае пераменаў! Яно чакае і спадзяецца. Мы з Вамі можам даць людзям надзею на перамены да лепшага!

З усёй адказнасцю перад Вамі заяўляю, што я і тыя людзі, якія ідуць разам са мной, ведаем, як гэтыя перамены ажыццявіць.

Перш за ўсё, трэба пераадолець раскол нашага грамадства. Хопіць дзяліць народ на сяброў і ворагаў, на сваіх і чужых, на чэсных і нячэсных. Мы ўсе, незалежна ад палітычных поглядаў, узросту, полу, нацыянальнасці, рэлігійнай прыналежнасці, мовы, - дзеці гэтай зямлі! Яе хопіць на ўсіх! Дзеля выратавання нашага агульнага дома - Беларусі мы павінны кансалідавацца. Толькі разам мы зможам рэалізаваць сваю "беларускую мару".

Дзяржавай павінны кіраваць прафесіяналы. Пракуратуру павінен узначальваць прафесійны юрыст, а Нацыянальны Банк - фінансіст. Нам патрэбны ўрад народнага даверу, у склад якога павінны ўваходзіць прадстаўнікі розных палітычных сілаў.

Эканоміку трэба паставіць з галавы на ногі. Лячыць яе трэба не заклікамі, загадамі і пагрозамі, а прымяненнем механізмаў стымулявання.

Рэформы не будуць мець абвальны характар, а будуць паступовымі, паслядоўнымі і беспаваротнымі. Яны будуць праводзіцца не дзеля рэформаў, а дзеля таго, каб стварыць новыя працоўныя месцы, падняць заробкі працоўным, мадэрнізаваць вытворчасць, павялічыць яе эфектыўнасць.

Пры гэтым трэба скараціць колькасць падаткаў. Вопыт Расіі яскрава паказаў, што рэзкае скарачэнне падаткаў вядзе да значнага павелічэння паступленняў у бюджэт.

Мы выкарыстаем станоўчы вопыт па правядзенню рэформаў усімі нашымі суседзямі, а таксама ўлічым памылкі, каб іх пазбегнуць.

Недахоп энэргетычнай і сыравіннай базы павінна быць кампенсавана адкрытасцю эканомікі,лібералізацыяй знешнеэканамічнай дзейнасці, стымуляваннем замежных інвестыцый.

Неабходна ліквідаваць усе перашкоды на шляху развіцця прадпрымальніцтва, зменшыць колькасць ліцэнзій, спрасціць заканадаўства, увесці заяўны прынцып стварэння юрыдычных асобаў.

У сельскай гаспадарцы трэба зыходзіць з прынцыпа свабоднага выбару формаў гаспадарання на зямлі.

Галоўнае, чаго мы павінны дасягнуць пераўтварэннямі ў эканоміцы, -гэта разбудзіць у нашых людзей пачуццё гаспадара.

Я не збіраюся ўступаць у спаборніцтва па абяцаннях памераў заработнай платы. Гэта задача ў першую чаргу кіраўнікоў прадпрыемстваў. Задача кіраўніцтва дзяржавы - стварыць такія магчымасці, каб чалавек мог зарабіць столькі, колькі ён хоча і колькі ён здольны. Мы створым краіну магчымасцяў, каб на сумленна зробленыя грошы кожны грамадзянін Беларусі мог пабудаваць дом, абсталяваць яго, забяспецыць жыццё сваёй сям'і, мець матэрыяльныя магчымасці для духоўнага інтэлектуальнага развіцця. У краіне будзе справядлівая сістэма сацыяльнага забеспячэння.

Жыллёвая праблема будзе вырашацца з дапамогай фінансава-крэдытных устаноў: іпатэчных і камунальных банкаў, кватэрных зберагальна-заемных кас.

Дзеля ўмацавання здароўя людзей патрэбна павялічыць у дзяржаўным бюджэце выдаткі на ахову здароўя, развіваць страхавую медыцыну.

Трэба ўзнавіць фінансаванне ўсіх скарочаных у апошнія гады чарнобыльскіх праграм.

Вяртанне людзей на забруджаныя радыяцыяй землі - гэта злачынства перад народам.

Фінансаванне адукацыі і навукі трэба лічыць стратэгічным інвестыцыяваннем. Неабходна стымуляваць недзяржаўныя інвестыцыі ў адукацыю і падрыхтоўку спецыялістаў. Па майму разуменню, трэба ўзяць накірунак на самакіраванне ВНУ.

Трэба правесці канстытуцыйную рэформу, аднавіць паўнавартасны Парламент, правесці свабодныя і дэмакратычныя выбары на падставе прапарцыйна-мажэрытарнай сістэмы.

Мы павінны забяспечыць сапраўдную незалежнасць судоў. Без гэтага не магчыма прававая дзяржава.

З самага пачатку дзейнасці новага кіраўніцтва краіны будзе забяспечаны прынцып падзелу ўладаў. Многія паўнамоцтвы прэзідэнта будуць перададзены Ураду і Парламенту.

Неабходна пашырыць правы органаў мясцовага самакіравання, іх паўнамоцтвы, фінансавую самастойнасць. Трэба пераўтварыць мясцовыя Саветы ў рэальныя органы ўлады.

Абвяргаю сцвярджэнне, што новы прэзідэнт разгоніць усіх работнікаў вертыкалі. Заяўляю аб будучым ўвядзенні выбарнасці кіраўнікоў мясцовых органаў улады, як гарантыю іх працы ва ўладных структурах. Тым, хто карыстаецца павагай і аўтарытэтам у людзей няма чаго баяцца за сваю пасаду.

Для грамадзян павінен дзейнічаць прынцып: "Дазволена ўсё, што не забаронена законам", а дзяржаўныя чыноўнікі павінны кіравацца прынцыпам : "Забаронена ўсё, што не дазволена законам".

Мы павінны дапамагчы міліцыі і спецслужбам заваяваць давер і павагу ў людзей. Скараціць іх колькасць да адпаведных памераў, на прыкладзе цывілізаваных краін. Пры гэтым забяспечыць годнай працай тых, хто будзе звальняцца.

На працягу пяці гадоў павінен быць забяспечаны пераход да прафесійнай арміі, пашыраны сацыяльныя гарантыі ваеннаслужачым, дзяржаўнае страхаванне іх жыцця і здароўя.

Будуць рэалізаваны спецыяльныя праграмы па вырашэнню праблем моладзі і жанчын. Моладзь павінна бачыць перспектывы жыцця ва ўласнай краіне, а не імкнуцца да эміграцыі.

Для забеспячэння свабоды слова трэба рэзка абмежаваць кантроль органаў улады над СМІ.

Кантроль над Белтэлерадыёкампаніяй будзе перададзены грамадскаму наглядальнаму Савету, створанаму на парытэтных пачатках з прадстаўнікоў органаў улады, партый, грамадскіх арганізацый, журналісцкіх саюзаў.

У знешняй палітыцы Беларусь павінна выйсці з міжнароднай ізаляцыі, шукаць сяброў, а не ворагаў, стаць актыўным суб'ектам міжнароднай палітыкі, а не аб'ектам геапалітычнага спаборніцтва.

Беларусь можа і павінна стаць стабілізуючым элементам у сістэме агульнаеўрапейскай бяспекі, гарантам забеспячэння рэгіянальнага баланса сіл.

Галоўнай задачай Міністэрства замежных справаў будзе - не дапусціць, каб на Заходняй мяжы Беларусі ўтварылася новая Бярлінская сцяна.

Адным з галоўных накірункаў знешняй палітыкі будзе замацаванне добрасуседскіх і узаемавыгадных палітычных і эканамічных адносін з Расіяй. Наша канцэпцыя будзе грунтавацца на наступных прынцыпах:

u сяброўскія адносіны з Расіяй пры забеспячэнні суверынітэту Беларусі;

u адмова ад палітычных, прапагандысцкіх гульняў, якія вядзе зараз кіраўніцтва Беларусі;

u акцэнт на эканоміку, а не на падпісанне віртуальных палітычных дамоваў;

u змяненне лозунга "Беларусь з Расіяй супраць Еўропы і Захаду" на лозунг "Беларусь - мост паміж Еўропай, Захадам і Расіяй";

Узаемавыгадная эканамічная інтэграцыя павінна распаўсюжвацца не толькі на Расію, але і на суседнія краіны і на ўсю Еўропу. Такім чынам, мы будзем рабіць так, каб размешчаная ў самым цэнтры Еўропы, Беларусь заняла "свой пачэсны пасад між народамі".

Лічу прынцыповым тое, што дзяржавай павінны кіраваць псіхічна здаровыя людзі. І таму ўсе кандыдаты на пасаду Прэзідэнта павінны прайсці незалежнае медыцынскае абследванне стану псіхічнага здароўя.

Будучае кіраўніцтва дзяржавы павінна вялікую ўвагу надзяляць узроўню маралі нашага грамадства, асабліва моладзі. Для гэтага, як веруючы чалавек, я лічу, што ўлады павінны ствараць умовы для развіцця рэлігійных канфесій, аказваць ім дапамогу і супрацоўнічаць з імі. Але пры гэтым у нас не павінна быць дзяржаўнай рэлігіі. Мы не маем права прапагандаваць якое-небудзь веравызнаньне, прыніжаючы пры гэтым іншае. Галоўная задача дзяржавы - абапірацца на сапраўдныя хрысціянскія каштоўнасці ў выхаванні нашых людзей. Толькі веруючы чалавек жыве ў поўнай згодзе з самім сабой і з грамадствам.

Зразумела, што гэта не канчатковая праграма будучых пераўтварэнняў. Гэта тыя прынцыповыя падыходы да праграмы, якая распрацоўваецца маёй камандай і з якой мы плануем ісці на выбары.

Народ Беларусі мае багатую і слаўную гісторыю. За намі стаяць ваяры Грундвальскай бітвы, дзяржаўныя дзеячы Вялікага Княства Літоўскага, героі нацыянальна-вызвольных паўстаньняў, апосталы нацыянальнага адраджэння пачатку 20-га стагоддзя, змагары супраць фашызма апошняй вайны.

Мы павінны быць годнымі нашай вялікай гісторыі. Ні яна, ні нашы дзеці і ўнукі не прабачаць нам, калі мы аддамо яе ў рукі палітычным авантурыстам, і страцім Беларусь.

Паглядзіце, колькі нас тут. А гэта толькі кропля ў моры людзей, якія жадаюць пераменаў да лепшага. Мы павінны выкарыстаць кожны, нават самы маленькі шанец, каб растлумачыць грамадзянам Беларусі, што ёсць выйсце, ёсць альтэрнатыва цяперашняму становішчу.

І калі мы ўсе разам будзем працаваць на перамогу - мы абавязкова пераможам. Галоўнае паверыць у гэта і ў свае сілы.

Я веру, што адсюль пачнецца шлях да нашай перамогі на выбарах.

***Нам патрэбна новая Беларусь і мы яе пабудуем!***

# ВУЛІЦА

СТАРОНКА ПРАГРЭСІЎНАЙ ПРУЖАНСКАЙ МОЛАДЗІ

THE OFFSPRING · Half-Life · the GATHERING · Guano Apes · http://www.hacker.ru

Падрыхтаваў Яўген Валюкевіч

# АЛКОГОЛЬ ближе к народу

ВАЛЮКЕВИЧ ЕВГЕНИЙ

Всё-таки люблю я наш народ. Нигде мне не было так весело как в Беларуси. Ну где скажите мне вы ещё увидите столько милиции. Ладно их много, но зато какие пёстрые. Глаз радует обилие пятнистых (прячутся от кого-то наверное), зелёных (не кузнечиков), серых (ностальгия по "совку") и прочих сотрудников. При виде такого "разнообразия" душа поёт от сознания того, какая всё-таки "мошчная" наша текстильная промышленность. Никакой "амерыканский враг" нам теперь не страшен. Особенно после столь "плодотворной" работы Всебелорусского народного собрания.



Такое шоу увидишь разве что где-нибудь в Зимбабве. Там местные папуасы тоже "дземакрацічэскі выбраные", устало потирая сонные глаза, слушают гневную речь вождя. Только пока простому народу от этого не легче. По-прежнему хлещет суррагат, вместо баварского пива где не будь в Австрийских Альпах.

В Пружанах средь бела дня, возле почты, аккурат напротив 3-го корпуса колледжа (слово то какое) стоит палатка. Без проблем можно приобрести шампунь, полотенца, канфеты-батончики и почую утварь, а также любимый напиток молодёжи - водку.

Можно представить себе студента, истекающего слюной, ожидающего окончания пары, чтобы примчаться с собранными однокурсниками деньгами и купить вожделенную бутылку. Вообще-то, по-моему, в нашей столь чудесной стране, существует закон о продаже алкоголя в общественных местах? Это уже вопрос к пятнистым, зелёным и серым. Завтра нашим детям на этом месте вместо кока-колы, крем-соды и дюшеса (которые появляются в общественных местах очень редко) будут продавать героин, кокаин и прочую бяку. Придется вместо нового здания милиции, строить центр реабилитации для детей-алкоголиков и наркоманов. Приятная перспектива не правда ли?

# СТИЛЯГА

## СТИЛЬНЫЕ фильмы и музыка сезона

## МУЗЫКА

**MUSIC INSTRUCTOR "The Best"**

*Предоставлено: YOZEF & "No Name Crew"*

Тем, кто увлечен брейк - дансом данная команда в представлении не нуждается. Они корифеи, настоящие ветераны своего дела. У них много альбомов и у тех, кто слушает их давно они все, наверняка, есть.

Ну а для тех, кто еще только собирается посвятить себя брейк - дансу, эта кассета станет отличным приобретением. Настоящий The Best от MUSIC INSTRUCTOR: абсолютно все хиты плюс новые миксы!

Стопроцентный брейк - данс шедевр!

## КИНОИНДУСТРИЯ

Death Row UN-CUT

Продолжительность:2 часа.

*Предоставлено: YOZEF & "No Name Crew"*

Этот фильм станет ценной находкой для настоящих любителей гангста - рэпа. Его создатель, скандально - известный, бывший шеф крупнейшего в Нью-Йорке гангста-рэп лэйбла "Death Row", Suge Knight!

Фильм содержит редчайшие кадры концертных выступлений, интервью, нереализованные и классические клипы самых ярких представителей гангста рэпа. Впрочем,что тут говорить, вот их имена: Dr.Dre, Snoop Dogg, 2Pac, Ice Cube, DJQuik.

**I HATE CHILDREN**

Продолжительность:30 минут.

*Предоставлено: YOZEF & "No Name Crew"*

Не секрет, что скейтбординг является неотъемлемым атрибутом уличной жизни. Сегодня, даже на улицах нашего города, все чаще можно встретить ребят беспечно гоняющих на скейтах. Главной прелестью этой программы является возвраст ее участников - не более шестнадцати лет!!!

Отличное музыкальное сопровождение, потрясающие скейтборд - трюки в исполнении маленьких королей улиц!!!

## WEB-ДАННЫЕ - Обзор Валюкевича Евгения

**http://www.wallpapermagic.de** - Если вы любитель красивых и качественных интернетовских картинок, тогда вам просто необходимо посетить этот немецкий сайт. На нём можно найти заставки на рабочий стол вашего компьютера и просто качественные фотографии на любую интересующую вас тему.

**http://www.all.by** - Как найти интересующую вас информацию? Белорусская поисковая система позволяет найти хоть и не всё, но по крайней мере работает отлично. С поисковика можно перейти на сайты-побратимы: www.shop.by (интернет-магазин) и www.chat.by (моя любимая болталка).

**http://www.tut.by** - На это время по моему самый популярный сайт белорусской молодёжи. Тут есть всё: магазин, прогноз погоды, курс валют, новости и море рефератов и курсовых (бесплатно...). По желанию, можно открыть свой электронный почтовый ящик.

*Удачи в WEB сёрфинге.*

# Юлія Цельпук

Калі сэрца баліць, мне
Вельмі цяжка глытнуць паветра,
У якімназаўсёды сьнег:
І ўвосені, і ўлетку.
Дзе жывеш, Беларусь? Жывеш
Ці сябе называеш шэптам?
Ты затыркана паміж рэшт,
Дзе ўрэшце снуеш непатрэбнай.
Кожным ранкам дняўны вампір
Цягне кроў з абяднелых жылаў,
А кампутаравы мір
Сведчыць: "Ты ўжо амаль астыла".
Ні пытанняў няма, ні слёз
У вачэй тваіх блізарукіх,
Нібы нехта ўкалоў наркоз,
Каб абрэкці цябе на мукі.

***

Паветра застыла
Тугім халадцом.
Ноч не бывае вострай.
Дазволена было
Бегчы ўздагон,
Каб толькі набрацца моцы.
На крыж красавік
Дабравольна залез
І мусіў сканаць бясконца.
Імгненьне, другое,
і трэці цьвік
Утоп у бэтонным сонцы.
І нельга ісьці -
Надалей і паўсюдна
Не бачна... нічога не бачна...
У гэтым жыцьці
Нудотна і нудна,
Ды страшна, заўсёды страшна.
Паветра застыла
Тугім халадцом.
Ноч не бывае вострай.
Дзень падавіўся
Іржавым цьвіком -
Проста схаваўся ад монстраў.
На белай пасьцелі
Дарожка крыві...
Ці гэта была гарбатка?
Пазбаўся ад хмелю,
Краіна! Жыві!..
...Усё, адабралі асадку.

***

Было, ёсьць, будзе...
Учора ёсьць,
сягоньня ёсьць,
заўтра ёсьць...
Так непазьменна,
нязьменна ёсьць,
Што людзі
У пустэчы -
З пустымі кішэнямі.
Людзі,
Якімі кіруе госьць...
пусты.
Сёлета ўвечары,
Зранку, уначы,
У шыбах ад радыё,
У полі ржы...
Ён не маўчыць -
Прымяральнік ілжы
Тоесны нашаму ёсьць.

***

Відавочнае добра схавана.
Добра для большасьці -
Не для ўсіх.
Партыя вечнасьці расстраляна -
Партыя, здольная
Бачыць сінь.
Пойце, бязумныя,
Плачце хорам!
Вам з яго боку - адзіны сьмех,
Мейсцы, разбураныя
Цэльным пазорам.
Вас да адказнасьці, чуйце ўсе!







# ГОРОСКОП на неделю

**Овен**

В понедельник Вас может ожидать приятная встреча. Однако на следующий день могут возникнуть непредвиденные обстоятельства, которые создадут проблемы в Ваших взаимоотношениях с любимым человеком. Все проблемные вопросы разрешатся уже в пятницу.

**Телец**

Между Вами произошли некоторые разногласия, но это не повод драматизировать ситуацию, сделайте первый шаг к примирению. В воскресенье лучше не обсуждать с любимым человеком финансовые вопросы.

**Близнецы**

В понедельник Вас может сразить стрела амура, и Вы будете добиваться взаимности, все сложится весьма успешно. Пятница - прекрасный день для встреч и свиданий.

**Рак**

От романтических встреч и свиданий Вы можете потерять голову, а все не так безоблачно, как кажется на первый взгляд. В воскресенье постарайтесь без бурных эмоций прислушаться к совету близких людей, он объективный и своевременный.

**Лев**

В понедельник уделите достаточно внимания для создания нового имиджа, который произведет неизгладимое впечатление. В пятницу лучше не сидеть дома, а провести вечер в дружеской компании и познакомиться с интересным человеком.

**Дева**

Из-за чрезмерной загруженности на работе могут возникнуть некоторые проблемы в отношениях с любимым человеком. В понедельник, при всем желании, Вы не сможете уделить столько внимания, сколько этого бы хотелось любимому человеку

**Весы**

Эта неделя насыщена событиями и эмоциями, то взлет, то падения, а разворачивающиеся события будут во многом зависеть от Вас. Зависть окружающих может порождать нелепые сплетни вокруг Вас

**Скорпион**

Эту неделю спокойной не назовешь. Во вторник возможна интересная встреча, которая обновит Ваши чувства. В воскресенье больше доверия и внимания любимому человеку, если Вы хотите избежать ссоры или скандала.

**Стрелец**

Ваша помощь нужна любимому человеку, особенно во вторник, постарайтесь не разочаровывать его. В субботу постарайтесь не показывать своего безразличия, это может осложнить Ваши взаимоотношения, будьте к нему внимательнее.

**Козерог**

Постарайтесь во всем придерживаться равновесия. Лучше не лезть из кожи, чтобы произвести впечатление на любимого человека. Лучше Вам побыть немного в одиночестве и решить для себя, чего Вы хотите добиться от любимого человека.

**Водолей**

На Вашем небосклоне воцарятся мир и благодать. Понедельник и вторник прекрасны для встреч и свиданий. Если Вы были в ссоре, то обязательно помиритесь. А пятница - просто райский день, в Ваших отношениях полное взаимопонимание и единодушие.

**Рыбы**

Во вторник Вы просто ангел-спаситель для своего любимого человека, он будет Вам признателен и благодарен. В четверг примите ситуацию такой, какая она есть. От Вашего настроения будет зависеть, как будут разворачиваться дальнейшие события.

# КРЫША ПОЕХАЛА!




На приеме у психиатра.

- Доктор, я каждую ночь вижу один и тот же кошмарный сон - мою тещу с крокодилом на поводке. Вы только представьте себе эти оскаленные зубы, эти прищуренные глаза и горящий ненавистью взгляд, эту холодную бугристую кожу!!!

-Да, действительно, очень страшно...

-Да вы погодите, я же вам еще про крокодила не рассказал!

***

Новобранец жалуется:

- Товарищ старшина, посмотрите, что мне выдали: брюки только до колен, рубаха болтается, рукава коротки, сапоги хлябают, глядеть страшно!

- Все в порядке, воин должен внушать страх.

***

Книжные новинки: Иван Сусанин "Как завести друзей."

***

- Ну как? Были у тебя в Лондоне проблемы с твоим английским?

- У меня нет. У англичан были.

***

Собираясь в гости, муж спрашивает жену:

- Как ты думаешь, дорогая, какую рубашку мне лучше надеть: без двух пуговиц или с грязным воротником?

***

Новый русский приходит в церковь и спрашивает у священника:

- Скажите, отец, если я отпишу церкви 500000 долларов, будет ли моя душа спасенной?

Священник:

- Не берусь утверждать, но давайте попробуем!

***

Как быстро "накрыть" праздничный стол?

- Узнайте, у кого из ваших знакомых готовится праздничный стол, вот его неожиданно "накройте".

***

Заходит жена в комнату, где находится муж, и говорит

- Дорогой, вынеси мусор!

- Муж (с тяжким вздохом)

- Я только сел!

- Жена (с пониманием и сочувствием)

- А что ты делал?

Муж:

- Лежал!

***

Старший брат спрашивает у младшей сестренки:

- Где ты была?

- У Маши.

- И что вы делали?

- В куклы играли.

- Ну и кто выиграл?

***

- Дай в долг десять рублей.

- У меня только пять.

- Давай пять, а пять будешь должен.

***

Сын говорит отцу:

- Пап, я тебя поздравляю! Помнишь, ты обещал мне 100 баксов за то, что я перейду в пятый класс? Так вот, ты сэкономил...

***

*Поздравляем!*

***С днем рождения Хведчука Виталия***

*Аромат всех цветов и румянец зари мы готовы тебе в этот день подарить, Нежность роз поутру, свет, тепло, доброту. Много ласковых слов и земную любовь всё что светлое есть и земное в судьбе мы желаем сегодня родной наш тебе.*

***Мама Елена и соседи***

***С днем рожденья Данилюк Катерину***

*Желаю быть всегда счастливой, доброй, милой, терпеливой. Быть всегда немного новой, жизнерадостной, здоровой. Еще любви тебе желаю, хочу, чтоб вечно улыбались твои прекрасные глаза.*

***Муж Сергей и сыновья Максим и Юра, а еще соседи.***

***С днем рождения Иванькову Марину Александровну***

*Желают долгой, счастливой жизни,*
*Ни на день, ни на год - навсегда.*
*Сил, здоровья, любви, уваженья*

***Подруги Елена, Александра, Светлана, Елена.***

***С днем рожденья Лобинскую Татьяну Николаевну***

*Храни тебя судьба*
*от мрака и ненастья*
*И дай тебе Господь,*
*коль это в его власти,*
*Здоровья, долгих лет*
*и много- много счастья.*

***Семья Свиридовых***



# АБ'ЯВЫ



**Голас Пружаны**

**Рэг.№1323 ад 16.07.1999 г.**
**Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала**

**Адрас рэдакцыі:**
*225140, г.Пружаны, вул.Завадская, 16*
**Телефон:***(01632) 2-00-40*
**E-mail:***golasp@irex.minsk.by*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.*

*Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.*

*Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.*

*Падпісана да друку 1 чэрвеня 2001 года.*

*Час падпісання 9:00*

*Надрукавана ў ГАУПП "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.*

*Наклад 1500 экз. Заказ № 1901*